www.nv-online.info

№ 45 (4092)

14 чэрвеня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

НАДВОР'Е

## Пагрэемся...

На гэтым тыдні ў Беларусь вернецца летняе надвор'е.

У выхадныя чакаецца да +30°С.

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для "Народнай Волі"

## Між молатам ды кавадлам

Новая халодная вайна, здаецца, пастукалася ўжо ў беларускія дзверы. З аднаго боку, у Польшчы разгарнуліся манеўры НАТО "Анаконда-2016" з удзелам 31 тысячы вайскоўцаў, трох тысяч адзінак тэхнікі з 24 краін – самыя буйныя ва Усходняй Еўропе пасля заканчэння эпохі супрацьстаяння між СССР і ЗША. З іншага боку, танкі Пуціна з'явіліся на Браншчыне, у Клінцах, ад якіх да нашай усходняй мяжы толькі 40 кіламетраў; фарміруецца мотастралковая дывізія ў Ельні Смаленскай вобласці.

Беларусь зноў, як і за савецкім часам, апынулася між молатам ды кавадлам. І тады, і цяпер па вялікім рахунку мераюцца сіламі Масква ды Вашынгтон. У сучаснай крамлёўскай карціне свету палякі, прыбалты, украінцы – толькі амерыканскія марыянеткі. Беларусь жа разглядаецца выключна як зручны плацдарм, стратэгічны балкон, што навісае над натаўскімі краінамі.

Днямі намеснік міністра абароны Польшчы Томаш Шаткоўскі паведаміў The Wall Street Journal, што хаўруснікі далі Варшаве папярэднюю згоду на размяшчэнне кантынгента НАТО на ратацыйнай аснове блізу горада Сувалкі (адтуль да нашай мяжы прыблізна столькі ж, колькі ад Клінцоў). Чаму менавіта там? Бо на расійска-беларускіх манеўрах у ранейшыя гады адпрацоўваўся ўдар менавіта ў гэтым кірунку. Калі ў выпадку гарачага канфлікту з НАТО перарэзаць Сувалкскі калідор – палоску зямлі шырынёй каля 65 кіламетраў між Беларуссю ды Калінінградскай вобласцю, то краіны Балтыі апынаюцца ў катле і прабіцца ім на дапамогу будзе вельмі цяжка. А калінінградскі эксклаў, нашпігаваны расійскай зброяй, наадварот, будзе такім чынам захінуты.

Вось чаму Масква так трымаецца за хаўрус з Мінскам, працягвае даваць беларускаму партнёру датацыі, крэдыты, даруе розныя выбрыкі кшталту недаплаты за газ. Усё гэта, паводле разлікаў расійскіх стратэгаў, акупіцца ў момант вырашальнай бітвы з супастатам. І тады ўжо ніякіх выбрыкаў ды хітрыкаў Крэмль не пацярпіць, імгненна паставіць у свой шыхт. Наперад, на міны! Не дай Бог, каб да гэтага дайшло!

Расійскія ўлады, СМІ апраўдваюць узмацненне вайсковага кулака на заходнім кірунку тым, што НАТО прасоўвае сваю інфраструктуру на ўсход. У сваю чаргу Паўночнаатлантычны альянс матывуе рост сваёй актыўнасці ў рэгіёне тым, што пасля анексіі Крыма, бойні на Данбасе ад Пуціна ўсяго можна чакаць. Гэта класічная эскалацыя напружанасці. З абодвух бакоў працуе логіка дэманстрацыі мускулаў, прынцып "пагроза мацнейшая за выкананне". Між тым менавіта з такіх спектакляў пачыналіся многія войны.

Гэта ж класіка жанру: ружжо на сцэне ў рэшце рэшт мусіць стрэліць. Беларусь рызыкуе ў каторы раз у гісторыі стаць полем бою. А пры цяперашняй збройнай моцы ўся краіна можа ператварыцца ў попел.

Беларускі кіраўнік не аднойчы дэклараваў, што беларусы лягуць пад танкі НАТО, але насамрэч такая перспектыва, натуральна ж, яго не натхняе. Таму і распачаў Мінск пасля Крыма геапалітычныя манеўры, узяўся разблакоўваць дачыненні з Еўрасаюзам ды Амерыкай, разыгрываць карту донара рэгіянальнай стабільнасці, "усходнееўрапейскай Швейцарыі". І, у прынцыпе, гэтыя высілкі айчыннай дыпламатыі можна вітаць. Іншая рэч, што ні ведамства Уладзіміра Макея, ні сам Аляксандр Лукашэнка не скочаць вышэй за галаву. Два дзесяцігоддзі "братняй інтэграцыі" намертва прывязалі Беларусь да Расіі. І не толькі рознымі інтэграцыйнымі дамовамі, у тым ліку і вайсковымі, але і наркатычнай залежнасцю ад яе рэсурсаў.

Масква ж усяляк заахвочвала да "братняй інтэграцыі", давала бонусы, тым самым сілкуючы прарасійскія настроі і ў беларускім грамадстве. Хоць насамрэч гэтае братэрства – пусты гук. Як і славянская дружба. Вунь украінцы – таксама ўсходнія славяне, але маскоўская прапаганда адразу зрабіла з іх фашыстаў, як толькі нашы паўднёвыя суседзі скінулі рэжым Януковіча ды абралі еўрапейскі вектар. На жаль, у такой самай пастцы і Беларусь. Калі ўявіць сабе, што да ўлады ў нас прыходзяць праеўрапейскія сілы (Еўропа ж нам патрэбна не дзеля таго, каб насаліць Расіі, а таму, што стаўка на ўсходнюю суседку кансервуе нашу адсталасць), то ў Масквы, я мяркую, напагатове выпрабаваны ўжо сцэнарый з выкарыстаннем "зялёных чалавечкаў". Ды і цяперашняга кіраўніка лягчэй узяць на цугундар, маючы сілавы кулак на нашай усходняй мяжы.

Дражніць імперыю сапраўды небяспечна, таму рэалістычны шлях – гэта спакваля мацаваць незалежнасць праз рэформы, уздым беларушчыны, дыверсіфікацыю замежнай палітыкі. Але ж тут перад беларускім кіраўніцтвам паўстаюць ментальныя бар'еры: страшна чапаць замшэлыя эканамічныя ды палітычныя парадкі, даваць абсяг развіццю грамадзянскай супольнасці, бо гэта пагражае архітэктуры аднаасобнай улады.

Выдатна, што нейтралітэт запісаны як мэта ў нашай Канстытуцыі. Але марам пра "ўсходнееўрапейскую Швейцарыю" не наканавана збыцца пры цяперашняй сістэме ўлады, якую прывязвае да Масквы антыдэмакратызм, нядзольнасць да трансфармацыі. Двухгаловы арол наўрад ці выпусціць Беларусь са сваіх кіпцюроў, пакуль сам дарэшты не аслабее.

ЦТ



## У чарговы раз пакрыўдзілі беларускую мову

Учора ў Беларусі пачалося цэнтралізаванае тэсціраванне, у якім сёлета будуць удзельнічаць 100 тысяч 811 абітурыентаў.

Першы іспыт па традыцыі – беларуская мова. Пісалі яго выпускнікі ўчора. Запісаліся на тэсціраванне 22.348 чалавек. А вось тэсты па рускай мове сёння здаюць 78.004 чалавекі. Значыць, 22,16% абітурыентаў здаюць беларускую мову, а 77, 84% – рускую.

Тры гады таму суадносіны былі 30% на 70%, а 10 год таму беларускую мову здавала прыкладна палова абітурыентаў.

БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

## МИД надеется...

*В Министерстве иностранных дел Беларуси надеются, что 2016 год станет последним годом действия американских санкций в отношении Беларуси.*

«Очевидно, что санкционные решения, принятые в 2006 году администрацией Джорджа Буша и продленные на очередной год, базируются на изначально неверном посыле о том, что Беларусь может выступать источником угрозы безопасности США», – говорится в комментарии пресс-секретаря МИД Беларуси Дмитрия Мирончика в связи с продлением еще на год американских санкций в отношении белорусских чиновников.

Они были продлены президентом США Бараком Обамой 11 июня. В списке десять белорусских чиновников во главе с Александром Лукашенко.

Стоит отметить, что последнее время в отношениях между Беларусью и Соединенными Штатами наблюдается потепление. 29 апреля США продлили на шесть месяцев решение о смягчении санкций в отношении белорусских предприятий, принятое после президентских выборов в Беларуси 2015 года. А в конце мая Временный Поверенный в Делах США в Беларуси Скотт Роланд в программе «Крупным планом» сообщил, что окончательное решение о судьбе санкций США в отношении Беларуси будет принято по итогам парламентских выборов в стране.

КАДРЫ

## 7 новых послов

Вчера Александр Лукашенко провел ряд кадровых назначений. Сразу у семи белорусских дипмиссий появились новые руководители.

**Юрий Лазарчик** назначен послом Беларуси в Иране, **Андрей Попков** – послом в Южной Корее, **Игорь Лещеня** – послом в Словакии, **Владимир Гошина** – послом во Вьетнаме и послом в Камбодже по совместительству, **Игорь Сокол** – послом в Украине, **Александр Церковский** – послом в Бразилии, **Дмитрий Куптеля** – послом в Уганде по совместительству, **Александр Михневич** – послом в Бельгии, постоянным представителем Беларуси при Евросоюзе и Европейском сообществе по атомной энергии, постоянным представителем Беларуси при НАТО по совместительству, послом в Люксембурге по совместительству.

В ТЕМУ

## «Вертикаль» укрепляется...

Вчера назначены:

**Леонид Мартынюк** – председателем Березовского райисполкома;

**Анатолий Гапоник** – председателем Лельчицкого райисполкома;

**Сергей Дмитров** – председателем Лоевского райисполкома;

**Александр Дубовик** – председателем Дятловского райисполкома;

**Юрий Валеватый** – председателем Мостовского райисполкома;

**Николай Астрейко** – председателем Воложинского райисполкома;

**Александр Габрукевич** – председателем Стародорожского райисполкома;

## Утвердили...

**Андрея Кулаженко** – генеральным консулом Республики Беларусь в г.Мюнхене (Федеративная Республика Германия);

**Владимира Чехлова** – генеральным консулом Республики Беларусь в г.Одессе (Украина);

**Михаила Демченко** – директором открытого акционерного общества «АГАТ – системы управления» – управляющая компания холдинга «Геоинформационные системы управления»;

**Андрея Кузнецова** – ректором Витебского государственного технологического университета;

**Сергея Хахомова** – ректором Гомельского государственного университета им. Франциска Скорины;

**Андрея Евдоченко** – первым заместителем министра иностранных дел;

**Владимира Рябоволова** – заместителем министра информации;

**Юрия Чеботаря** – заместителем министра экономики;

**Елену Перминову** – директором департамента по туризму Министерства спорта и туризма;

**Юрия Наркевича** – управляющим делами Брестского облисполкома.

К СЛОВУ

## У «Белфармации» новый руководитель

Серьезные кадровые изменения коснулись и медицинской сферы.

Александр Лукашенко дал согласие на назначение руководителем РУП «Белфармации» **Вячеслава Гнития**, а также замминистра здравоохранения – главным государственным санитарным врачом Республики Беларусь **Натальи Жуковой**.

Что касается «Белфармации» – государственного предприятия, занимающегося поставками лекарств в аптеки и медучреждения страны, то можно было бы решить, что прежний руководитель **Игорь Ковальчук** отправлен в отставку заслуженно. Уж очень много нареканий у белорусов к тому, чем нам сегодня предлагают лечиться: из аптек исчезают импортные препараты, цены на многие лекарства стали просто астрономическими.

Но кто за это отвечает? Руководитель «Белфармации»?

Игорь Ковальчук возглавлял предприятие с 2008 года. Но вытеснение импорта с аптечных прилавков случилось тогда, когда власти потребовали импортозамещения в фармакологии и наши отечественные предприятия стали наращивать выпуск белорусских лекарств. Поэтому связывать смену руководства в РУП «Белфармация» с настроениями в обществе вряд ли стоит. Как и надеяться на то, что лекарства подешевеют или хотя бы рост цен на них остановится.

К слову, новый гендиректор республиканской «Белфармации» не новичок и о проблемах отрасли знает не понаслышке. До назначения в Минск Вячеслав Гнитий возглавлял брестское отделение «Белфармации».

Также на повышение пошла и еще одна назначенка – Наталья Жукова. Прежнее место работы замминистра здравоохранения – главный санитарный врач Минска.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ЛЮСТЭРКА

## Як правалiўся Кастусёў...

**Па праўдзе кажучы, не падабаецца мне тэлевізійная перадача пад прэтэнцыёзнай назвай "Клуб рэдактараў". Заангажаваная, прымітыўна-прапагандысцкая. Не ратуе яе нават удзел некаторых кіраўнікоў недзяржаўных СМІ, прадстаўнікоў палітычных партый.**

**Апошнім апанентам Генадзя Давыдзькі і яго застольных сатэлітаў быў Рыгор Кастусёў, намеснік старшыні Партыі БНФ. Здавалася б, дзе, як не ў адкрытай дыскусіі, можна бліснуць эрудыцыяй, наступальнасцю, агаленнем вострых праблем, прыцягненнем на свой бок патэнцыяльных прыхільнікаў. На жаль, не па Сеньку шапка. На працягу ўсяго дыялогу перад гледачамі прадстаўляўся не вопытны партыйны лідар, не востры на язык палітык-дыскутант, а гэтакі шэранькі чыноўнік раённага камунгаса. Складвалася ўражанне, што ён выпадкова трапіў за стол да штатных дзеячаў лукашэнкаўскай прапагандысцкай каманды. Наогул, чалавек як быццам не ўцяміў, пра што ідзе гаворка, з кім і з чым спрачацца, якія аргументы пускаць у ход. Яны, Давыдзька, Якубовіч і Жук – пра адно, ён жа ўстаўляе свае "пяць капеек" зусім пра іншае. Губляецца час, дыскусія ператвараецца ў нейкую расплывістую кашу-гаварыльню. Адным словам, нічога путнага, таго, што магло б адгукнуцца ў галовах тэлегледачоў, не сказаў бээнэфаўскі партайгеносэ.**

**Між тым у спадара Кастусёва былі ўсе шанцы заявіць, што ён не лыкам шыты і не дарэмна ўскараскаўся на партыйны п'едэстал. Апаненты накінуліся на сайт "Нашай Нівы", які ў дзень візіту ў Мінск Пуціна выпадкова выкарыстаў інфармацыю чатырохгадовай даўніны. А што, падобных ляпаў не бывае ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі? Колькі заўгодна! Ці не плятуць яны розную лухту вакол тых жа палітычных партый? Прывёў бы Р.Кастусёў з пяток канкрэтных прыкладаў – і апаненты былі б пасаромлены. А ён толькі нешта незразумелае прамямліў у апраўданне таго, што Партыя БНФ не мае ніякага дачынення да «расцяжкі на трасе з аэрапорта з бруднай лаянкай на адрас вяльможнага У.Пуціна».**

**Не абараніў ён і свайго паплечніка па дэмакратыі Зміцера Дашкевіча. Ці то не палічыў неабходным гэта зрабіць, ці то не знайшоў красамоўных пацверджанняў яго грамадзянскай пазіцыі. А "акулы пяра" стаялі на сваім: публічныя дзеянні Дашкевіча і падобных яму апаганьваюць добрыя стасункі Беларусі і Расіі. Вось актывістам БРСМ дазволена любая акцыя, у любы дзень і ў любым месцы, а маладафронтаўцам, вобразна кажучы, толькі раз у год і на "сабачым выгуле". Дэмакратыя па-беларуску! У якіх толькі іпастасях яна не праяўляецца. Але спадар Кастусёў аказаўся бездапаможны ў дыскусіі на гэту тэму з апанентамі, якія з'яўляюцца штатнымі апалагетамі лукашэнкаўскага рэжыму.**

**Глядзеў я на гэту сумную карціну і думаў: божухна, якая ж антырэклама для Партыі БНФ! Калі, магчыма, хто і думаў папоўніць яе шэрагі, то пасля такой перадачы з удзелам Рыгора Кастусёва бадай што зменіць сваё рашэнне.**

**Не, збяднела партыя на кадры. Узгадайце, хто быў яе заснавальнікам і першым старшынёй? Зянон Пазьняк! Глыба, аратар, з якім баяліся ўступаць у спрэчкі самыя высокія камуністычныя бонзы. А побач з Пазьняком – прафесар Юрый Хадыка, паліглот Лявон Баршчэўскі, навуковец Вінцук Вячорка, дзясяткі іншых знаных асоб. А што сёння? Няма каго і выдзеліць у партыі. Як кажуць, на бязрыб'і і рак рыба. Вось і ўчарашні камунгасавец са Шклова выбіўся ў кіраўнікі партыі. Што ў яго за душой? За адказам на гэтае пытанне не трэба хадзіць далёка, дастаткова было паглядзець у мінулую нядзелю перадачу "Клуб рэда ктараў", для ўдзелу ў якой быў запрошаны спадар Кастусёў.**

**Сумна і млосна ад такіх гора-палітыкаў...**

**Сцяпан КУХАРЭНКА.**

ДА ЎВАГІ!

## Газета «Народная Воля» і сайт www.nv-online.info – не адно і тое ж

Зусім мала часу застаецца да заканчэння падпіскі на другую палову 2016 года – усяго 14 дзён. Хочам папярэдзіць тых, хто лічыць: навошта атрымліваць газету "Народная Воля", калі пад гэтым брэндам ёсць сайт www.nv-online.info?

Шаноўныя сябры! Папяровы варыянт газеты і названы сайт – гэта абсалютна розныя рэчы. Матэрыялы, якія друкуюцца ў газеце, не выстаўляюцца на сайце, кантэнт якога абмяжоўваецца толькі аператыўнай інфармацыяй.

Публікацыі на старонках газеты маюць эксклюзіўны характар. На сайце з'яўляюцца толькі кароткія, у некалькі сказаў, анонсы на некаторыя з іх. Прачытаць поўнасцю той ці іншы цікавы, часам сенсацыйны матэрыял у дзень яго з'яўлення могуць толькі падпісчыкі газеты, а таксама тыя, хто набывае свежыя нумары ў шапіках "Белсаюздруку".

На сайце ў раздзеле "Архіў" гэтыя публікацыі могуць з'явіцца толькі праз 12–14 дзён. А гэта ўжо не ўяўляе той цікавасці, той актуальнасці, якую маюць вострыя матэрыялы ў свежых нумарах газеты. Вось чаму рэдакцыя раіць Вам, шаноўныя сябры, абавязкова аформіць падпіску на газету "Народная Воля".

Кошт – 60.000 рублёў на месяц. Цяжкасці з фінансамі? Можаце падпісацца не на паўгоддзе, а на месяц, два, квартал. У Вас застаецца магчымасць у любы дзень прадоўжыць падпіску.




**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Настаўніцу, на якую напаў з нажом школьнік, выпісалі з бальніцы

*Зараз яна будзе праходзіць амбулаторнае лячэнне.*

Нагадаем: раніцай 23 мая вучань 74-й гімназіі Мінска напаў на 57-гадовую настаўніцу рускай мовы і літаратуры з нажом, нанёсшы ёй некалькі ўдараў у вобласць шыі. Педагог у цяжкім стане была дастаўлена ў бальніцу. У дачыненні да падлетка прызначана комплексная псіхолага-псіхіятрычная экспертыза.

Як стала вядома "Народнай Волі", днямі Валянціну Губарэвіч выпісалі з 10-й гарадской бальніцы, дзе яна пасля здарэння была прааперыравана.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ГРАМАДСКІ КАНТРОЛЬ

## Калі закончыцца расследаванне справы па трагедыі ў аквапарку?

*Хутка будзе год, як у сталічным аквапарку Dreamland загінуў 10-гадовы хлопчык, але расследаванне справы так і не закончылася.*

Нагадаем: трагедыя адбылася ў жніўні мінулага года. Школьнік прыехаў з Гродзенскай вобласці ў Мінск да сваёй 24-гадовай сястры, дзяўчына вырашыла схадзіць з братам у аквапарк. Хлопчык знаходзіўся ў дзіцячым басейне, у нейкі момант яму стала дрэнна. Выкліканыя на месца здарэння медыкі даставілі школьніка ў бальніцу, але выратаваць дзіця не ўдалося: хлопчык памёр, не прыходзячы ў прытомнасць.

Следчы камітэт праз нейкі час заявіў, што па факце здарэння заведзена крымінальная справа па ч.2 арт.338 (аказанне паслуг, якія не адпавядаюць патрабаванням бяспекі, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

*"На гэты момант расследаванне справы працягваецца"*, – коратка паведамілі "Народнай Волі" ў Следчым камітэце.

Дададзім, што аквапарк Dreamland (заснавальнікам ЗАТ "Ростэм", кампаніі-заказчыка будаўніцтва аквапарку, з'яўляецца бізнесмен Юрый Авяр'янаў) адкрыўся ў ліпені 2015 года, а ўжо праз месяц у ім адбыўся трагічны выпадак.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЗАПРАШЭННЕ

# Усе – у Дудуткі на «Свята Сонца»!



Можна меркаваць, так грандыёзна купальскае свята ў Беларусі яшчэ не адзначалася. Тое, што задумаў арганізатар фестывалю Аляксандр Рак, зможа выклікаць нечуваныя эмоцыі ва ўсіх, хто будзе знаходзіцца ў знакамітых "Дудутках" 18 і 19 чэрвеня.

"Свята Сонца" – галоўная фішка фэсту, прымеркаванага да летняга сонцастаяння, да старажытнага Купалля. На адной пляцоўцы, лічы, выступяць не толькі ўсе самыя вядомыя музыканты модных накірункаў, але і разам з беларускімі выканаўцамі будзе шмат замежных артыстаў.

"Свята Сонца" парадуе наведвальнікаў "Дудутак" не толькі open-air канцэртам, у праграме фэсту – мноства разнапланавых мерапрыемстваў, аб'яднаных адной агульнай ідэяй. Не будзем раскрываць усе сакрэты Аляксандра Рака і яго асістэнтаў, але абазначым толькі тыя лакацыі, якія прыцягнуць увагу удзельнікаў фестывалю:

* этна-пляцоўка,
* горад майстроў і рамеснікаў,
* старадаўні кірмаш,
* выступленне вулічных тэатраў, старажытныя музыка і танцы,
* абрадавая пляцоўка,
* пляцоўка для спартыўных і настольных гульняў,
* шматлікія майстар-класы, навуковыя канферэнцыі, семінары,
* інтэрактыўныя пляцоўкі,
* рыцарскія пляцоўкі,
* спаборніцтвы лучнікаў

і шмат чаго яшчэ.

Можна не сумнявацца, на ўсё жыццё ва ўдзельнікаў фестывалю застанецца ўражанне ад самага вялікага ў Беларусі купальскага вогнішча на рацэ Пціч, як і ад начнога факельнага шэсця, скокаў-карагодаў і многага-многага іншага.

Сіноптыкі абяцаюць самае спрыяльнае надвор'е. А каб удзельнікі фестывалю мелі "свой бытавы куточак", арганізатары свята не забылі пра намётавы лагер.

Узніклі нейкія пытанні? Адкрывайце старонку ў сацсетках https://vk.com/sviata_sonca і афіцыйны сайт http://svyata-sontsa.by.

Да сустрэчы ў Дудутках!

**Максім ВЯРНІЦКІ.**

## Топ-пытанні

**1. Як дабрацца ў музейны комплекс "Дудуткі" на фестываль "Свята сонца"?**

– **Рэйсавы аўтобус №323** Мінск–Дудуткі адпраўляецца цяпер з вул.Чыгуначнай, 41/1 (АС "Паўднёва-заходняя") па выхадных (субота, нядзеля):

у Дудуткі – 9.51, 13.02, 16.17,

з Дудутак – 11.15, 14.20, 17.40.

– **Электрычка** да Рудзенска + бясплатны трансфер.

– **На асабістым аўто/веласіпедзе/кані** і нават на таксі! Агульная дарога з цэнтра горада каля 40 хвілін (прыкладна 50 км). ***Для ўладальнікаў аўтамабіляў будзе арганізавана бясплатная паркоўка.***

– Таксама можна знайсці сабе спадарожніка ў спецыяльнай тэме – https://vk.com/topic-109583233_33715498.

**2. Колькі каштуюць квіткі на фестываль?**

Кошт на першы дзень (18.06.2016) – 240.000 рублёў (з нацэнкай ticketpro – 264.000); на другі дзень (19.06.2016) – 200.000 рублёў.

На два дні (18–19.06.2016) – 380.000 рублёў.

Сямейны квіток на адзін дзень – 500.000 рублёў (2 дарослыя + 2 дзіцяці школьнага ўзросту).

Сямейны квіток (2 дарослыя + 2 дзіцяці школьнага ўзросту) на два дні (18–19.06.2016) – 700.000 рублёў.

Дзіцячы квіток – 90.000 бел.рублёў.

Дзеці дашкольнага ўзросту – бясплатна!

* Квіток можна набыць на сайце "Дудутак" – http://dudutki.by/order/, на сайце http://www.ticketpro.by, у нашым офісе (ГЦ "Маскоўска-Венскі", 401), у дзень мерапрыемства – у касах "Дудутак".

** Па меры набліжэння фестывалю кошт квіткоў будзе павялічвацца.

**3. Ці можна пераначаваць у музейным комплексе "Дудуткі"?**

Для ўсіх жадаючых будзе дзейнічаць намётавы лагер. Экалагічны збор – 20.000–25.000 рублёў з намёта. Жадаючыя могуць зарэгістравацца ў тэме – https://vk.com/topic-109583233_33319813?offset=40.

Для спантанных – можна будзе арандаваць палатку, спальнік, дыванок, мангал.

**4. Як будзе арганізавана харчаванне для гасцей фестывалю?**

На тэрыторыі "Дудутак" ёсць кавярня з беларускай кухняй. Таксама будуць арганізаваны выязныя пункты харчавання з блінамі, пловам, шашлыкамі і гэтак далей – галодным не застанецца ніхто!

**5. Ці дазволена праносіць на фестываль алкагольныя напоі?**

Не, пры ўваходзе на тэрыторыю мерапрыемства ўсе алкагольныя напоі будуць забірацца. Набыць піва, медавуху і да таго падобнае можна будзе ў пунктах грамадскага харчавання з мінімальнай нацэнкай.

КАМПЕТЭНТНА

# Ці выпадзе медальны дождж над Беларуссю?

*За найноўшую гісторыю Беларусі самым паспяховым міністрам спорту і турызму быў Аляксандр Грыгараў. Калі ён займаў міністэрскае крэсла, беларускія атлеты заваявалі 19 медалёў алімпійскага Пекіна. Чатыры з гэтых узнагарод былі залатыя, што таксама з'яўляецца абсалютным беларускім рэкордам. Перад Алімпіядай у Бразіліі з былым міністрам спорту і турызму пагутарыў карэспандэнт "Народнай Волі".*



– Зразумела, я чакаю старту Алімпійскіх гульняў, – *прызнаўся Аляксандр Уладзіміравіч*. – Буду перажываць за беларусаў. Шчыра жадаю спартсменам добрага выступлення! Спорт – гэта значная частка майго жыцця.

Чаго чакаць ад беларускіх спартсменаў? Я не прыхільнік прагнозаў, але пакуль мяне непакоіць тое, што на рахунку беларускіх спартсменаў малавата алімпійскіх ліцэнзій – прыкладна 120. Прычым у Міністэрства спорту свая статыстыка, у Нацыянальнага алімпійскага камітэта – свая. Я падлік ліцэнзій не вяду, усю інфармацыю атрымліваю з інтэрнэту ці друкаваных СМІ. Адзначу толькі, што перад Алімпіядай у Пекіне такіх ліцэнзій у Беларусі было каля двухсот.

**– Зразумела, што не ўсе з тых, хто паедзе на Алімпіяду, могуць разлічваць на медалі. Аляксандр Уладзіміравіч, а як увогуле прымаюцца "медальныя планы"?**

– Я не ведаю, як гэта робіцца зараз. Калі я быў прызначаны на пасаду, у мяне адбылася размова з прэзідэнтам НАК. Ён канкрэтна спытаў, якімі я бачу вынікі будучай Алімпіяды. Я адказаў: "Нам трэба пераўзысці Сідней-2000". Нагадаю, тады беларусы заваявалі 17 узнагарод. Я ўзяўся за працу. Гэта што тычыцца адміністрацыйнага боку пытання. А з боку спартсменаў сітуацыя наступная: кожны алет, які прэтэндуе на паездку на Алімпіяду, разам з трэнерам падпісвае пэўныя дакументы, якія прадугледжваюць працу на вынік. Бо Алімпіяда праходзіць раз у чатыры гады, а ў цыкле ад Гульняў да Гульняў спартсмен удзельнічае ў іншых спаборніцтвах – гэта могуць быць чэмпіянаты свету, Еўропы, этапы Кубка свету, разнастайныя Гран-пры. Вынікі выступлення за гэты час адсочваюцца, аналізуюцца, і робіцца заключэнне, ці можа чалавек прэтэндаваць на алімпійскую ўзнагароду.

Я не разумею тых, хто гаворыць, што мы едзем на Алімпіяду дзеля ўдзелу. Які сэнс? Так і мы з вамі з'ездзіць можам…

Раскажу, што для беларускіх спартсменаў лічыцца правальным выступленнем на Алімпіядзе. Гэта безумоўнае апошняе месца ў любым відзе спорту і добраахвотны сыход з дыстанцыі ці адмова ад удзелу ў спаборніцтвах…

**– Значыць, вы лічыце прымальным медальнае планаванне?**

– Безумоўна, а як жа інакшай? Вось вам прыклад: завод, які знаходзіцца на дзяржаўным забеспячэнні, атрымлівае фінансавую дапамогу. Перад прадпрыемствам стаіць план: выпусціць пэўны аб'ём прадукцыі. Амаль тое самае і ў спорце: дзяржава траціць сродкі на падрыхтоўку спартсмена і законна можа чакаць ад яго аддачы. Я вам нават болей скажу: сярод усіх спартсменаў, якія едуць на Алімпіяду, вызначаецца група найбольш перспектыўных, ад якіх чакаюць выніку ў першую чаргу. У 2008-м, перад Пекінам, такіх спартсменаў было чалавек семдзесят. Звычайна медалі атрымлівае трэць ад гэтай колькасці. Спартыўныя спецыялісты прыйшлі да высновы, што можна разлічваць на 20 медалёў. Пра вынік вы ведаеце. Зараз, калі я правільна разумею памочніка прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Максіма Рыжанкова, атлетаў, якія могуць разлічваць на алімпійскія ўзнагароды, – чалавек трыццаць…

**– Але, калі падзяліць гэтую лічбу на тры, то атрымліваецца, што медалёў можа быць штук дзесяць. Значыць, нават у параўнанні з Лонданам-2012, дзе на рахунку беларусаў было 13 узнагарод, у Бразіліі нас можа чакаць поўная параза?**

– Не дай Бог! У нас звычайна на летніх Алімпійскіх гульнях заваёўваецца каля 15 узнагарод. Так, мінулая летняя Алімпіяда была самай "немедальнай". Калі ўзнагарод будзе яшчэ менш, то атрымліваецца, што дзяржаўныя грошы, выдзеленыя на падрыхтоўку атлетаў, патрачаны марна. Каму гэта спадабаецца?

**– Не магу не закрануць і "допінгавую" тэму. Апошнім часам на слыху скандалы з ужываннем атлетамі мельдонію…**

– Як па мне, дык шуміха перабольшана. Я не раскрыю сакрэту, калі скажу, што гэты прэпарат доўгі час быў дазволены, спартсмены яго ўжывалі для таго, каб арганізм мог хутчэй і без страт аднавіцца пасля каласальных нагрузак. Зараз правілы змяніліся – Сусветная антыдопінгавая асацыяцыя прызнала яго забароненым. Гэтыя правілы, безумоўна, трэба выконваць. Але я вам выкажу сваё суб'ектыўнае меркаванне: спартсменаў, якія заваявалі алімпійскую ўзнагароду, трэба пільна правяраць у год правядзення спаборніцтваў. Ды і пасля старту. Ну, можна ўзяць пробы за чатырохгадовы цыкл падрыхтоўкі да Алімпійскіх гульняў. Але не вяртацца і не аспрэчваць вынікі 10–15-гадовай даўніны. Так, умоўна кажучы, можна аспрэчыць любы вынік, напрыклад вынік Міхаіла Пятровіча Крыванасава, які выйграў сярэбраны медаль у алімпійскім Хельсінкі ў 1952 годзе.

**– Аляксандр Уладзіміравіч, а як у Беларусі кантралюецца "допінгавая тэма"?**

– Помніце маю крылатую фразу: "У алімпійскі самалёт не сядзе ніводны атлет, які не прайшоў допінг-кантроль унутры краіны". Я і зараз прытрымліваюся падобнай думкі, тым больш што ў Беларусі створаны шыкоўныя ўмовы для таго, каб сітуацыю трымаць пад кантролем. У свой час у Бараўлянах была адкрыта антыдопінгавая лабараторыя. Адбылося гэта не без майго ўдзелу. Мы працавалі ў шчыльным кантакце з міністрам аховы здароўя Васіліем Жарко і Аляксандрам Косінцам, які тады працаваў віцэ-прэм'ерам. У лабараторыю было закуплена самае сучаснае абсталяванне. І задача гэтай установы ў першую чаргу не столькі злавіць спартсмена на допінгу (хаця ёсць выпадкі, калі атлет і трэнер "хімічаць" і прыдумваюць, чым хутка і якасна аднавіць арганізм атлета), колькі распрацаваць для спартсмена праграму аднаўлення арганізма пасля каласальных нагрузак.

**Гутарыў Віталь ГАРБУЗАЎ.**

### Медальны расклад

| Год і месца правядзення Алімпіяды | Хто быў міністрам спорту | Усяго медалёў | З іх залатых |
|---|---|---|---|
| 1996, Атланта | Уладзімір Рыжанкоў | 15 | 1 |
| 2000, Сіднэй | Яўген Ворсін | 17 | 3 |
| 2004, Афіны | Юрый Сівакоў | 15 | 2 |
| 2008, Пекін | Аляксандр Грыгараў | 19 | 4 |
| 2012, Лондан | Алег Качан | 13 | 3 |

ПРОГНОЗ

## Вадим ЖУК: «Чемпионом Европы будет сборная Франции или Германии»

*Известный белорусский футбольный судья Вадим ЖУК рассказал «Народной Воле» о Евро-2016, судействе на этом чемпионате и сделал свой прогноз .*

– Чемпионат Европы – это всегда праздник для болельщиков, но меня настораживает тот факт, что на этом первенстве состав участников финальной части впервые расширили до 24 команд. Это слишком много, практически половина всех европейских сборных будут участвовать в финале Евро-2016. То же самое произошло и с Лигой чемпионов. Мне кажется, что все это сказывается на мастерстве команд, на зрелищности футбола. Раньше в финале играли 16 команд, и этого, на мой взгляд, было достаточно. Потому что любителям футбола были представлены лучшие. А сейчас на чемпионате играют Албания, Северная Ирландия… Эти сборные никогда не были на первых ролях в футбольной Европе. Так что, наверное, не все матчи будут привлекательными, как раньше.

И, безусловно, очень волнует общая ситуация во Франции. Угроза терактов, забастовки – все это может бросить ложку дегтя в футбольный праздник. Хотя будем надеяться на лучшее.

**– Когда УЕФА расширяло состав участников Евро-2016, расчет был на популяризацию футбола в той же Албании или Северной Ирландии. Представляете, какой сейчас праздник для болельщиков этих стран!**

– Так тоже можно сказать, но мне кажется, что бывший президент УЕФА Мишель Платини, внедряя новую систему, больше думал о том, чтобы накануне выборов привлечь на свою сторону голоса стран, которые раньше только мечтали попасть на чемпионат Европы, а затем их мечты стали реальностью.

**– Если говорить об уровне европейского футбола… Он вырос, упал, остается на прежнем уровне?**

– Ведущие команды – те же Франция, Германия, Испания, Англия – растут. Но большинство сборных остаются на прежнем уровне, а за счет тех команд, которым подфартило попасть на Евро-2016, чемпионат даже ухудшился в качестве.

**– Неизменный атрибут каждого чемпионата Европы или мира – судейские ошибки…**

– Это действительно так. Даже в финальном матче Лиги чемпионов 38-летний турецкий судья Джюнейт Чакыр допускал грубые ошибки. В последнее время судейский корпус в Европе значительно омолодился, им не хватает опыта. Уровень судейства в последнее время не растет. Но, с другой стороны, футбольный судья – это человек, а не робот. Он тоже имеет право на ошибку.

**– Были предложения во время футбольных матчей ввести видеоповторы спорных ситуаций на поле. Ваше отношение к этому?**

– Видеоповторы хотят ввести в тестовом режиме в качестве эксперимента, но я пока не понимаю, как это будет работать на практике. Систему видеогола еще можно понять. Пересек мяч линию, зафиксирован гол – система подает сигнал арбитру. Но как можно просмотреть неправильный подкат или какой-то другой момент? Игра ведь продолжается. Останавливать матч? Но тогда это уже будет хоккей, а не футбол. Игра может превратиться в автоматическое действие, она потеряет привлекательность.

**– За кого вы будете болеть на этом чемпионате?**

– На чемпионате Европы 1996 года я судил матч Франция–Испания, поэтому за эти команды и сейчас буду болеть. Да и не только поэтому. Я считаю эти сборные сильнейшими не только в Европе, но и в мире. И, безусловно, внимательно буду следить за выступлением сборных Украины и России. Хотя не думаю, что у них много шансов на завоевание медалей.

**– Но украинцы и россияне играют в финальной части чемпионата Европы, а белорусы и этого не имеют…**

– И, как мне кажется, долго еще нам такая перспектива не светит. Это если реально смотреть на вещи. И если оценивать сегодняшний реальный уровень футболистов сборной Беларуси.



Хотя, возможно, когда-нибудь и наша команда будет радовать болельщиков на топовых чемпионатах.

**– Ваш прогноз: кто будет чемпионом Европы?**

– На мой взгляд, Франция или Германия.

**Алесь СИВЫЙ.**

КРЫЖАВАНКА

## «Навука – гэта скарб»



**Па гарызанталі:** 1."Навука – гэта скарб, і вучоны … ніколі не прападзе" Петроній. 5.Знак задыяка. 9.Прозвішча беларускіх братоў-вучоных Генадзя, Леаніда і Анатоля – ураджэнцаў Уздзенскага раёна. 10.Вынік складання велічынь. 11."Навука – гэта тое, што вы ведаеце, … – тое, што не ведаеце" Б.Расел. 12.Дэ-… – юрыдычна, фармальна, а не толькі фактычна. 13.Стандартнае заданне, якое прымяняецца для вызначэння разумовых здольнасцяў чалавека. 15.Самае значнае, галоўнае (разм.). 17.Найвышэйшы ўздым у развіцці чаго-небудзь. 18.Пра творы навукі, мастацтва. 21.Еўрапейская валюта. 22.Прэснаводная рыба. 26.Зямельная мера ў некаторых краінах. 28.Нарада, канферэнцыя па якім-небудзь навуковым пытанні. 30.Навука не …, у рот не ўвальеш (прык.). 31.Узяўся за … – не кажы, што не дуж (прык.). 32.Тое, што і дзёран. 33."Навука пахвальная толькі тады, калі яна прыносіць …" В.Лен.

**Па вертыкалі:** 2.У матэматыцы тэарэма, неабходная толькі для доказу іншай тэарэмы. 3.Манах, член каталіцкага манаскага ордэна. 4.Від кавылю. 6. … – дасужы, ды не дужы (прык.). 8.Браты … – выдатныя беларускія вучоныя, ураджэнцы Мсціслаўшчыны; Максім – пісьменнік, літаратуразнаўца, публіцыст; Гаўрыла – вучоны-геолаг, географ, акадэмік. Абодва былі рэпрэсаваныя; рэабілітаваныя. 10.Праца і навука – брат і … (прык.). 14.Мерапрыемства для павышэння кваліфікацыі. 16. … лепш багацця (прык.). 19. … Ігнатоўскі – імя вучонага-гісторыка, акадэміка, першага прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі; загінуў у сталінскіх лагерах; рэабілітаваны.20. Уладзімір … – прозвішча вучонага-гісторыка, акадэміка, першага рэктара Белдзяржуніверсітэта; быў рэпрэсаваны, рэабілітаваны. 23. … Гартны (Змітцер Жылуновіч) – пісьменнік, грамадскі і дзяржаўны дзеяч, быў рэпрэсаваны, загінуў у зняволенні, у псіхіятрычнай бальніцы; рэабілітаваны. 24.Не штука – навука, а штука – … (прык.). 25.Ідэя, жаданне. 27.Ад навукі дужэюць … (прык.). 29.Партовае збудаванне.

### АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ

**Па гарызанталі:** 1.Чалавек. 5.Казерог. 9.Лыч. 10.Сума. 11. Філасофія. 12.Юрэ. 13.Тэст. 15. Цвік. 17.Пік. 18.Рэч. 21.Еўра. 22. Лешч. 26.Акр. 28.Сімпозіум. 30. Піва. 31.Гуж. 32.Дзірван. 33. Карысць.

**Па вертыкалі:** 2.Лема. 3.Езуіт. 4.Тырса. 6.Адзін. 7.Рэвю. 8. Гарэцкія. 10.Сястра. 14.Семінар. 16.Вучэнне. 19.Усевалад. 20.Пічэта. 23.Цішка. 24.Розум. 25.Думка. 27. Рукі. 29.Пірс.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ. г.Дзяржынск.**

## Кто? С кем? Когда?




В финальном турнире чемпионата Европы впервые примут участие 24 национальные сборные. Они разбиты на шесть групп. Последние матчи группового турнира состоятся 22 июня. В 1/8 финала выйдут команды, занявшие в группах первые и вторые места, а также четыре лучшие команды, занявшие третьи места. Матчи 1/8 финала будут сыграны с 25-го по 27 июня, матчи 1/4 финала – с 30 июня по 3 июля, полуфиналы – 6 июля в Лионе и 7 июля в Марселе. Игра за третье место проводиться не будет.

**Группа «A».** Франция, Румыния, Албания, Швейцария.

**Группа «B».** Англия, Россия, Уэльс, Словакия.

**Группа «C».** Германия, Украина, Польша, Северная Ирландия.

**Группа «D».** Испания, Чехия, Турция, Хорватия.

**Группа «E».** Бельгия, Италия, Ирландия, Швеция.

**Группа «F».** Португалия, Исландия, Австрия, Венгрия.

### Расписание матчей в группах

**14 июня**
Австрия–Венгрия
Португалия–Исландия

**15 июня**
Россия–Словакия
Румыния–Швейцария
Франция–Албания

**16 июня**
Англия–Уэльс
Украина – Северная Ирландия
Германия–Польша

**17 июня**
Италия–Швеция
Чехия –Хорватия
Испания–Турция

**18 июня**
Бельгия–Ирландия
Исландия–Венгрия
Португалия–Австрия

**19 июня**
Швейцария–Франция
Румыния–Албания

**20 июня**
Словакия–Англия
Россия–Уэльс

**21 июня**
Северная Ирландия – Германия
Украина–Польша
Хорватия–Испания
Чехия–Турция

**22 июня**
Венгрия–Португалия
Исландия–Австрия
Швеция–Бельгия
Италия–Ирландия



Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871. Тэл. рэкламнага аддзела: (017) 3286609

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

9 772071 964000 16045



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 13.06.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27 010 экз. Заказ № 2293